# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР




№ 6 1927 г.

Заходняя Беларусь пад панскім бізуном.

# Пашыраем дзіцячую літаратуру і сваю часопісь.

*Некаторыя атрады і школы з посьпехам выконваюць гэту задачу. Але справа пашырэньня дзіцячай літаратуры сярод усіх пісьменных дзяцей — справа ўсіх атрадаў і школ.*

## Добры прыклад.

Першае зьвяно Старобінскага атраду імя Варашылава пры дапамозе ўсіх піонэраў атраду *распаўсюдзіла сярод вучняў, піонэраў і ўсіх дзяцей на 20 р. рознай літаратуры.* Гэтую літаратуру піонэры бяруць на пошце. Цікава адзначыць, што літаратуру купляюць ня толькі дзеці, а і сяляне.

Другім атрадам варта скарыстаць гэты прыклад.

**В. Бялько.**

## Добрае і кепскае ў „Б. П."

Мы, піонэры першага зьвяна, атраду пры Наркамасьветы (Менск) разглядалі „Беларускі Піонэр" на занятках зьвяна. Пасьля азнаямленьня з часопісьсю, мы знайшлі ў ёй наступныя недахопы:

1) у літаратурным аддзеле зьмяшчаецца мала твораў саміх дзяцей;

2) мала высьвятляюцца на старонках „Б. П." жыцьцё і праца піонэраў гораду;

3) частка зьмяшчаемых малюнкаў ня зусім добра выкананы.

Мы лічым, што літаратурны аддзел і „ў часе адпачынку" (задачы і жарты) пастаўлены ў часопісі лепей за ўсё.

У вогуле-ж „Беларускі Піонэр" нам вельмі падабаецца. Піонэры нашага атраду выпісваюць часопісь у *ліку 19 экзэмпляраў.*

**1-ае зьвяно атраду пры НКА.**

## За 2 дні—43 падпішчыкі.

У Клянінскай школе настаўнікам і некаторымі вучнямі было сабрана *за 2 дні падпіскі на 43 экз.*

З гэтага відаць, што пашыраць часопісь сярод усіх вучняў ёсьць магчымасьць. Часопісь не такая ўжо дарагая, але цікавая. Трэба толькі жаданьне на гэта з боку нашых настаўнікаў і школьных самакіраваньняў.

## Выпісалі літаратуры на 60 руб.

Піонэрскія атрады м. Старобіна (Случчына) організавалі сваю бібліотэчку і выпісалі рознае літаратуры на 60 руб.

**Г. Рытлін.**

### Зьмест.



### Вокладка.




Выданьне: **„Чырвоная Зьмена".**

Рэдколегія: **Брыгневіч. С Жураўскі. М. Мамчыц. А. Пякарчык. А. Якімовіч.**

Мастацкая аздоба і малюнкі **Я. Кашкеля.**

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

УМОВЫ ПАДПІСКІ:
На 3 м-цы . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.
„ 12 „ . . . 2 р. 40 к.

ДВОХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ: МЕНСК, Комсамольская, 25

№ 6 | САКАВІК | 1927 г.

## ВЕРЫМ У ПЕРАМОГУ

*(Ліст польскага атрада да ўсіх дзяцей Зах. Беларусі і Польшчы).*

Мы, піонэры польскага атраду г. Менску, шлем сваё братэрскае прывітаньне дзецям Заходняй Беларусі і Польшчы і жадаем найхутчэйшага вызваленьня ад клясавага і нацыянальнага прыгнечаньня. Мы ведаем, што вашы бацькі, сёстры і браты, а разам з імі і вы самі пераносіце цяжкія зьдзекі і катаваньні ад польскіх паноў, якія хочуць праз кроў і турмы зьнішчыць усялякую думку працоўных аб вызваленьні.

У нас другая справа. Працоўныя Сав. Беларусі ўсіх нацыянальнасьцяй вольна працуюць, разьвіваюцца і адчуваюць сябе гаспадарамі свайго жыцьця і сваёй краіны.

Дзеці кожнае нацыянальнасьці маюць магчымасьць вучыцца ў сваіх школах на роднай мове, і ніхто нам ні ў чым не перашкаджае.

Цяпер, калі фашысцкі ўрад Польшчы разбурае Заходнюю Беларусь, яе рабоча-сялянскую арганізацыю „Грамаду“, мы, піонэры, праклінаем крывавую дзейнасьць фашыстых над працоўнымі Зах. Беларусі. Мы спадзяемся, што да таго часу, калі вырасьцем, мы будзем жыць і працаваць разам з вамі ў вольным Савецкім Саюзе. Мы верым у перамогу працоўных.

Пакуль, да пабачэньня!

ПОЛЬСКІ ПІОНЭРСКІ АТРАД.
Г. МЕНСК.




## КАЖЫ, ДЗЕ ТВОЙ СЫН?

*(З жыцьця сялян Заходняй Беларусі)*

— Powiedź, dzie jest twój syn?*)

Ужо другі дзень гэтыя словы зьвіняць у вушох старога Барташука на розныя лады. Гэтае запытаньне перакруціла, перавярнула ўсё яго жыцьцё, скрамсала на шматы тую магчымую лагоднасьць і той дабрабыт, якія так-сяк існавалі ў яго хаце, у яго вёсцы пад уладай польскай шляхты.

Маленькі сухенькі дзядок Барташук прывык шмат да чаго, прывык асьцерагацца лішняе слова казаць, бо шляхта мела шмат вушэй: польскі настаўнік, ксёндз, поп, паліцыянт, асаднік і іншыя шпікі лавілі кожнае слова яго „бунтарскай“ сям'і.

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Сын Барташука, восемнаццацігадовы Язэп зьнік пасьля таго, як знашлі каля іхняй вёскі на полі між дзьвюх крушняў забітага польскага жандара. Жандара Янэка ведала ўся ваколіца, як дзікага ката, які ўжо не аднаго бязьвіннага селяніна адправіў на той сьвет, які зьдзекаваўся над старым і малым бяз дай прычыны, а проста меў ад гэтага вялікую прыемнасьць. Біў так сабе, абы біць: „а ну-ж, што скажа?“

*) Кажы, дзе твой сын?

— Powiedź, dzie jest twój syn?

За апошнія два дні стары Барташук чуў гэтае запытаньне шмат разоў—мо' сто, мо' дзьвесьці, можа яшчэ болей. Як увалілася трое п'яных жандараў у яго хату, як пачалі бізунамі катаваць яго, старую жонку, маладую дачку, дык у вялізнай лужыне брудных польскіх лаянак хрыпелі, сьлюнявілі гэтыя словы. Тры разгарачаныя рылы польскіх жандараў,—кожны пасвойму біў—ці шомпалам, ці ботамі, ці бізуном, кожны на сваю манеру выплёўваў, выхраківаў гэтыя словы. Жылы на ілбу вяроўкамі пляліся, вочы п'яныя сыпалі іскры, дрыжэлі падбародкі ад дзікіх крыкаў:

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Пад плач і лямант хатніх, зьвязалі вяроўкамі старога Барташука і яго дачку. Так моцна зьвязалі, ажно косьці рыпелі і хрусьцелі. Павялі іх у паліцэйскі пастарунак.

Надзвычайна лагодны летні дзень сеяў сонечныя, яскравыя зярняты на поле і лес. Над пясчанай дарогай віселі пляцёнкамі жаўранкі. На полі дзе-ні-дзе мітусіліся людзі.

Сьлёзы ў вачох Барташука і яго дачкі высахлі, застыглі ў сухім

бляску. Рукі былі закручаны за плячыма і перавязаны аднэй вяроўкай. Ісьці было нязручна: бяз вольнага размахваньня рукамі здавалася, што нясеш на нагах нечае чужое цела. Ногі без разбору ступалі ў пяску або часам—па вострых каменьчыках. Усё вакол парабілася чужым, далёкім.

І ў старога Барташука і ў яго дачкі думкі былі накіраваны ў адзін бок, каб хаця малады і гарачы Язэп ня выскачыў цяпер з лесу іх бараніць. Тады яго жандары на месцы прыстрэляць. Яны ўжо як-кольвечы перацерпяць...

Жандары час-ад-часу штурхалі іх прыкладамі, білі жылістымі кулакамі па твары, ад чаго ў старога Барташука твар набух, як гнілы грыб, пасінеў, заплылі вочы.

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Стары Барташук пляваў крывёю, глытаў салёную жыжу, і незнаёмы цяжкі пах казытаў напухшыя ноздры. На ўсе дзікія катаваньні ў пастарунку ён маўчаў, сьцяўшы зубы.

Яго дачку павялі ў другі пакой, дзе рагаталі п'яныя паліцыянты. Іхні рогат то разьліваўся мэталёвымі трэлямі, то сыпаўся дробным шротам, то грыматаў разьюшаным конскім іржаньнем.

Барташук паў духам. Ён непакоіўся за дачку.

У гэты час ён меў адпачынак ад катаваньня. Ён падышоў да дьвярэй і пачаў стукаць у іх пакалечанымі рукамі, крычаць нямым голасам:

— Людзі, ратуйце!

Крык з грудзей старога вырываўся чужы, незнаёмы. Ад свайго ўласнага крыку старому рабілася лягчэй, сьмяртэльная роспач як-бы супакойвался. Супакойваючыся, ён пачаў адчуваць боль ва ўсім целе ад катаваньня. Нібы цяпер заўважыў самога сябе. Як білі гаварылі, што гэта толькі „цьвяткі“, а „ягадкі“ яшчэ будуць. Гэтыя „цьвяткі“ давалі сябе адчуваць, ныла ўсё цела.

—Людзі, ратуйце!—крычаў стары.



**У панскай Польшчы.**

*(Заходняя Беларусь пад прыгнётам Пілсудзкага).*

Нехта за дзьвярмі скрыпнуў ключом. Дзьверы ірвануліся, і стары Барташук упаў галавой якраз на грудзі бліскучага выфранчанага жандара. Жандар адскочыў назад зьбянтэжаны ад неспадзеўкі—і Барташук, як труп, ударыўся тварам аб яго выглянцаваныя боты.

Падскочылі яшчэ двое. Барташука за ногі завалаклі назад у пакой. І пясьля ранейшых „цьвяткоў“ пачаліся „ягадкі“.

— Powiedź, dzie jest twój syn?— запытаўся адзін з лагодным, надзіва ціхім голасам.

Барташук маўчаў і глядзеў на іх так незацікаўлена, нібы яны былі празрыстыя, нібы ён бачыў праз іх нейкую даль.

— Адумайся, псякосьць, а то жывым адгэтуль ня выйдзеш!—казаў жандар болей строгім голасам.

Барташук стаяў, як глуханямы.

— Мы яго пацягнем за язык,— казаў другі жандар сіпучым зьмяіным голасам. З-пад абшлагаў сваёй курткі выняў пару бліскучых шпілек... Як спакойны хірург, падышоў да Барташука, каб „пацягнуць яго за язык“.

Дзікі, жудасны крык запоўніў камору, ірваўся праз вокны на двор. Барташук трапятаўся ўсім целам. Двое жандараў трымалі старога за абедзьве рукі, а трэці запускаў яму шпількі пад пазуры. З-пад чорных закарузлых мужыцкіх ногцяў расьціснутымі журавінамі капала кроў на яго пакрываўленыя мазолістыя пальцы.

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Апрача бясслоўнага крыку болі, нічога ад старога не дабіліся. Барташука цягалі за нос, за губы, білі галавой аб сьцяну. Кінулі, як мяшок, на падлогу і бліскучымі ботамі тапталі па твары, па бакох; станавіліся ботамі на горла.

Стары стагнаў з кожным разам ўсё спакайней... Нібы прызвычаіўся...

Барташук забыўся, дзе ён і што з ім. Болю ўжо не адчуваў. Было такое ўражаньне — нібы гарачы дождж падае-льлецца на яго, лезе ў вочы, у рот, коціцца градам па нагах, па жываце. Вочы былы затуманены. У гэтым тумане мітусіўся яго сын Язэп, адзін і, здаецца, не адзін, а дваццаць Язэпаў з усіх куткоў глядзелі на яго і шапталі жаласьлівым голасам:

„Тата... татачка“... Голас быў такі жаласьлівы, што самому Барташуку чагосьці жаласна стала. Ён пачаў шкадаваць самога сябе, што ня можа выбрацца з-пад такога дажджу. З вачэй падалі-сыпаліся старчыя сьлёзы.

„Тата... татачка...“—кажа сын Язэп.

— Powiedź, dzie jest twój syn? — чуе ён галасы над сабой, як-бы з няведамай далячыні, аднекуль здалёку.

Постаць сына зьнікла.

Перад вачыма растуць зялёныя кругі, вырастаюць у вялізныя абручы, у скручаных баранкамі вужакаў, коцяцца ціха па падлозе.

Вялікая роспач ахапляе Барташука.

Прапаў сын.

Якія тут добрыя людзі—занепакоіліся аб яго сыне... Яму пачынае здавацца, што сам ён, бацька, забіў яго—забіў сына роднага. Жудасьць напала на Барташука. Вочы вылезьлі на лоб. У галаве горача стала...

Барташука аблілі халоднай вадой, поўнае вядро вылілі на яго. Ён ляжаў распластаны на падлозе ў

лужыне крыві і вады, дрыжучы ўсім целам.

Над ім стаялі ўспацеўшыя, разгарачаныя жандары і шапталіся паміж сабою.

— Жывуч, падла!

Як санітары, жандары паднялі Барташука з падлогі, паставілі на ногі і руплiва пачалі зрываць з яго вопраткі.

Стары тарашчыў у сьцяну крывёй аблітыя вочы і апухшымі губамі мармытаў:

— Браточкі... браточкі...

Ён гаварыў гэта не да жандараў, бо на іх не глядзеў, а як-бы да людзей усяго сьвету гаварыў.

— Ціха, хамская костка!—крыкнуў старшы жандар,—будзем біць вас, пакуль усе зробіцеся бандытамі!

Барташук стаяў голы, у сіняках на ўсім худым целе, дрыжаў і шаптаў:

— Браточкі... браточкі...

— Лажыся! – закамандаваў старшы жандар, – тут твая сьмерць будзе, калі ня хочаш казаць, дзе твой сын!

Барташук пакорліва лёг.

Яму на плечы палажылі дошку. Ён выпрастаўся, каб дошка лепш ляжала. Пачалі біць гірамі па дошцы. Нібы рамантавалі падлогу. Барабанілі ў такт:

— Раз! два! тры!

Глухі стук раздаваўся ў пакоі. Пад дошкаю корчылася акрываўленае, распластанае цела. Пакрыўленыя, напухшыя ад уколаў сталёвых шпілек мужыцкія пальцы хутка скакалі па бруднай падлозе, нібы перабіралі нявідочныя клавішы музычнага інструманту.

Спачатку Барташуку здавалася, што бачыць сваю хату. Вось яе вецер-віхор разбурыў, панёс старую саломку на поле, разваліліся сьцены, і яго старая жонка сядзіць на печы, глядзіць на яго і рукі ламае.



У панскай Польшчы.
*(Як паны „разгаварваюць“ з сялянамі).*

А вось конік ліжа яго за руку гарачым і мокрым языком, ліжа і паглядае разумнымі вачыма ў самыя вочы старому.

Пасьля Барташуку здавалася, што яго кінулі ў цёмную глыбокую процьму. Ён ляціць уніз, ляціць і ляціць мо' год, мо' сто гадоў. Ад гэтага шпаркага лёту дух захоплівае. Замест сэрца нейкае пустое месца, так прыкра... Хацеў-бы скарэй грукнуцца аб дно, каб косьці ў пыл рассыпаліся, каб болей нічога не адчуваць...

Яго ў другі раз аблілі вадою. Як ачнуўся, стаяла глухая поўнач. Праз жалезныя краты лез у цемру смуроднага пакою ціхі бледна-жоўты месяц.

На сьцяне люстрыўся адбітак жалезных крат—цёмныя клетачкі на дрыжучым белым абрусе месячнага зьзяньня.

Дзесьці забрахалі сабакі: адзін голас грубы з лёгкімі дрыготамі медзі, другі—цененькі, з хрыпоткай.

Стары Барташук пазнаў брэх свайго Лыскі. Задрыжэла сэрца селяніна. Гарачы ком падступіў к горлу, шчэміць, душыць...

— Што цяпер у хаце робіцца? Дзе сын? Ці пусьцілі каня на начлег? І так мала сена будзе на зіму для скаціны...

Непакоіцца. У гаспадарчых клопатах забыўся, што ня можа варухнуцца з месца, што ўсе рэбры паломаны, што ўвесь ён у крыві... Усё заслонена перад ім—Лыска кажа яму пра хату...

Стары лавіў кожны шолах вакол. За сьцяною на гародзе шастала старая бяроза (удзень яе заўважыў), нібы зладзейка кралася да яго. За дзьвярыма чуваць былі ціхія галасы са сьмешкамі, гульлівыя галасы жандараў.

Раптам...

Нехта ў поцемках уткнуў доўгае, вострае шыла ў самае, самае сэрца Барташуку. Вушы навастрыліся. Па ўсім пакалечаным, скатаваным целе праскочылі палючыя аганькі.

Працяглы, жудасны лямант з суседняга пакою праскочыў праз сьцены, узбудзіў Барташука і вохканьнем завандраваў у месячныя кроплі летняй ночы.

Гэта войкала дачка Барташука.

„Яе цяпер гвалцяць...“ — пранеслася маланкай у мазгох старога.

Лямант раптам сьціх.

„Ёй заткнулі рот анучай“— здагадаўся бацька.

„Анучай з яе парваных вопратак“...—мільганула далей думка, бо ён чуў шорах, нібы тканіна рвалася. Можа здалося яму—ён чуў сапеньне, хрыпеньне жандара...

Стары хацеў рвануцца з месца— ня мог, вельмі аслабеў. Хацеў крыкнуць голасна, каб увесь сьвет пачуў—хрыпоты і бульканьне рваліся з яго акрываўленых губ.

„Далей не магу цярпець, скажу, „дзе сын“, —падумаў стары. „Не, не скажу!“ і самому сабе зрабіўся ён агідным за такія думкі. „Сын павінен адамсьціць за бацьку, за сястру, за вёску...“

Барташук ляжаў у забыцьці. Лёгка было на душы. Прыемная цяплынь ахапіла ўсё цела. Толькі нейкія надакучлівыя мухі лезьлі ў ноздры, у рот, у вочы, казыталі праз меру. Мо‘ яму гэта здавалася?

Сьмешныя песьні сьпяваў Барташук. Усе на адзін лад. Адны і тыя самыя словы:

— Powiedź, dzie jest twój syn?

Можа гэта здавалася Барташуку?

Праз жалезныя краты ўглядаецца месяц. Цень кратаў кладзецца, нібы пляцёнка з лучын, на застыўшы скорчаны труп старога селяніна.

На дварэ зацягвае выцьцё цененькімі жаласьлівыміноткамі калматы Лыска. У яго вачох адбіваецца колер жоўтага месяца.

**З. Бядуля.**



# НА ШТО ПАКРЫЎДЗІЎСЯ ЦІМ

Ціму восем гадоў. Але ён ужо тры гады працуе.

Працуе Цім на палёх, на якіх расьце бавоўна.

Бавоўна высокая. На зялёным сьцябле спачатку вырастаюць блакітныя веткі, а потым бурыя каробачкі. У бурых каробачках ляжаць камочкі белае ваты. Гэту вату трэба асьцярожна з каробачкі вымаць. Гэта робяць дзеці, і Цім разам з другімі.

Цім ведае, што вата йдзе потым на фабрыку і завод. Там з гэтае ваты робяць белую матэрыю. А з белае матэрыі шыюць белае адзеньне. Белае адзеньне носяць потым белыя людзі. А Цім чорны, як вакса.

І ўсе, што працуюць на палёх бавоўны, таксама чорныя—негры.

Белыя не працуюць. Яны толькі наглядаюць за працаю чорных і б'юць іх. Балюча бьюць. Кіямі. Усіх бьюць. І такіх маленькіх, як Цім, і такіх старых, як дзядуля Сам. А дзядуля Сам зусім стары. У яго ад старасьці па чорнай скуры белыя плямы пашлі.

Дзядуля Сам даўно працуе на палёх бавоўны. Ён папаў сюды зусім маленькім. І дзядуля Сам вельмі любіць і шкадуе дзяцей. Гэта ён даў Ціму трошкі грошай, каб Цім мог пайсьці ў горад у кіно.

Калі Цім падзякаваў яго, дзядуля Сам сказаў:

— Толькі вось што Цім: не хадзі на тыя вуліцы, на якіх жывуць белыя. Не хадзі!

Цім упусьціў параду дзядулі ў адно вуха, а ў другое выпусьціў.



— *Куды ты лезеш, чорнае шчане!*

Ды ўжо-ж, бязумоўна, ён пойдзе туды, дзе жывуць белыя. Там вялікія прыгожыя дамы і там самыя лепшыя кіно.

Ішоў Цім доўга і вельмі стаміўся. Ад палёў, на якіх ён працаваў, да гораду было вельмі далёка.

Калі Цім увайшоў у горад, дык ён падумаў, што ў яго хопіць грошай на трамвай. Ён пачакаў ля астаноўкі вагона. Калі ён стаў ужо на падножцы, сярдзіты кондуктар узяў яго за вуха і сьпіхнуў на брук.

— Куды ты лезеш, чорнае шчанё!—сказаў кондуктар: - неграм няможна ў трамвай.

Цім пакрыўдзіўся і парашыў, што гэты кондуктар вельмі нядобры. Мусіць, другія не такія сярдзітыя. Ён стаў чакаць новых вагонаў; але яго прагналі і з другога і з трэцяга. У чацьверты ён ужо сам не захацеў.

Ля дзьвярэй кіно стаяў высокі чалавек у чорным убраньні з залатымі гузікамі. Калі гэты чалавек убачыў Ціма, ён крыкнуў:

— Куды ты лезеш, чорнае шчанё! Цім парашыў, што яго ня хочуць пусьціць, бо думаюць, што ў яго няма грошай. Ён разгарнуў свой чорненькі кулачок і паказаў грошы. Тады чалавек у чорнай вопрацы ўдарыў Ціма па руцэ. Грошы выпалі на брук. А чалавек у чорным сьмяяўся і крычаў:

— Чорнае шчанё пажадала ў кіно! У кіно ня пускаюць чорных шчанят!..

Ціму стала крыўдна, ён сеў на зямлю і заплакаў.




* * *

Дзеці!...
Скора з выраю,
З цёплага паўдня,
З песьняй жураўлінаю
Прыляціць вясна.
Зацьвітуць пралескамі
Далі на зары.
Птушкі „піонэрскую“
Зазьвіняць ў бары.
Адгукнуцца казкаю
Сінія гаі...
Залатымі краскамі
Зацьвітуць палі...
І палі, і людзі
Будуць поўна жыць.
Кожны кусьцік будзе
З сонцам гаманіць.
Над шляхом, дзе далі
Сеюць сіні мак,
Нам раскажа казку
Стары беразьняк.
Скажа аб мінулым,
Як такой парой
Тут зьвінелі кулі,
І лілася кроў...
На шляхох заснула
Крыўда і любоў...
. . . . . .
(Тое, што мінула,
Не надыйдзе зноў!).
Скора, скора з выраю,
З цёплага паўдня,
З песьняй жураўлінаю
Усплыве вясна.
І палі, і людзі
Будуць пець і жыць,
Кожны кусьцік будзе
Казку гаманіць.

**Кляшторны.**

# ДАГЛЯДАЙЦЕ СВОЙ САД.

### Вясновая праца ў садзе.

Ня толькі малады сад патрабуе ад гаспадара добрага догляду за сабой, гэты-ж догляд патрэбны і для старога саду. Калі няма догляду—сад пачынае слабець, даваць менш пладоў і, урэшце, зусім загіне.

Догляд над садам не абмяжоўваецца якой-небудзь парой году: цэлы год руплівы гаспадар павінен пільна сачыць за жыцьцём свайго саду, працаваць у ім. Самая большая і галоўная праца ў садзе прыпадае на вясну.

### Абчышчай сад ад гнёзд чарвей.

На ветках пладовых дрэў, асабліва на яблынях, застаецца зімаваць шмат сухіх пучкоў павуцэньня. Гэта гнёзды вядомых чарвей: вусяней, баярышніц і златагусак. Гэтыя чэрві жывуць так у сваіх цёплых гнёздах праз усю зіму, а ўвесну, калі пацяплее, вылазяць з іх і накідаюцца на маладыя лісточкі дрэў. Шкоднікі гэтыя могуць дашчэнту зьнішчыць лісты і сапсаваць, такім чынам, сад, калі іх сваечасова ня зьнішчыць.

Самы просты спосаб змаганьня з імі—гэта зьбіраць і зьнішчаць іх гнёзды. Апошнія зьбіраюцца ўвосень, зімой у часы адлёгаў і раньняй вясной, у сакавіку і красавіку, пакуль вусені яшчэ не прачнуліся і не павылазілі з сваіх гнёздаў.

Здымаць гнёзды можна проста рукамі, стоячы на тоўстых сукох або драбінах, ці пры дапамозе тонкіх палак з рашчэпленымі канцамі падобнымі да вілак, або зрэзываць садовымі ножычкамі-сучкарэзамі, насадзіўшы на жэрдачку. Сабраныя лісты і гнёзды з павуценьнем трэба абавязкова спаліць.

На тонкіх галінках пладовых дрэў часта можна знаходзіць смалістыя кружкі,—гэта яечкі шоўкапрада: вясной з іх выходзяць таксама вусені. Яечкі гэтыя таксама трэба зьбіраць і зьнішчаць. Абразаць іх трэба разам з ветачкамі, на якіх яны сядзяць.



Апрача тых чарвей і іх яечак, якія маюцца на ветках, шкоднікі знаходзяцца таксама і на ствалох дрэў. Часта на ствале, недалёка ад зямлі і на каранёх можна знайсьці махнатыя кучкі яечак. Гэта гнёзды няпарнага шоўкапрада. Зьнішчаць іх можна або саскрэбваючы і душачы яечкі, або пры дапамозе жалезнага купаросу, разьмешанага ў вадзе—3 ф. купаросу на вядро вады.

### Абчышчай старую кару.

Часта старая кара служыць месцам, дзе разводзяцца розныя шкоднікі. Яна

таксама перашкаджае разьвівацца і расьці маладой кары, на якой тарчыць у выглядзе шчэпак. Для гэтага патрэбна кожны год рабіць абчыстку ствалоў ад старой кары.

Абчышчаюць яе ўвосень або раньняй вясной у туманную хмурную пагоду, калі кара лепш адстае. Старую кару трэба абчышчаць асьцярожна, каб не сапсаваць гэтым маладой кары. Абчыстка робіцца асобнымі скрэбкамі ці тупымі сталовымі нажамі. Абчышчаную кару абавязкова трэба спаліць, бо ў ёй маецца досыць шмат розных яечак шкоднікаў саду.

Пасьля таго, як кара абчышчана, дрэва трэба абмазаць вапнай. Разводзіць яе трэба досыць густа. Абмазваецца ўся старая кара. Маладой зялёнай кары абмазваць ня трэба, калі на ёй няма моху.

Абмазваецца дрэва для таго, каб зьнішчыць рэшткі шкоднікаў кары і захаваць яго ад моцнага награваньня сонцам.

### Зьнішчайце мох і лішайнікі.

Сады, якія ня маюць добрага догляду, часта зарастаюць мохам і лішайнікам. Гэтыя лішайнікі жывуць на ветках кары і сухіх дрэвах, кормяцца яго сокамі і могуць прывесьці дрэва да пагібелі. Яны-ж служаць добрым месцам для жыцьця ўсім іншым шкоднікам сада. Такі сад становіцца зусім нікуды ня вартым і ня прыносіць прыбытку для гаспадара.

Мох і лішайнікі можна зьнішчаць раньняй вясной, да распусканьня пупушынак пры дапамозе апырсківаньня сада растворам жалезнага купаросу. Апошняга бярэцца $1\frac{1}{2}$—3 фунты на вядро вады.

### Абрэзвай непатрэбнае гальлё.

Абразаць трэба ўсе засыхаючыя галінкі, усе лішнія гучкі і веткі, якія спляюцца адзін з другім і перашкаджаюць росту іншым. Абразаць веткі трэба блізка ля ствала, зрэзы загладжваюцца вострым нажом і абмазваюцца садовай замазкай або масьлянай фарбай. Дробныя галінкі можна і не замазваць.

Усе зрэзаныя гучкі і веткі таксама ўсьлед-жа вывозяцца з сада.

### Апрацоўка глебы ў садзе.

Глеба ў садзе павінна быць заўсёды мяккай і рыхлай. Для гэтага кожны год трэба рабіць ворку ў садзе або хаця-б перакопваць глебу ля ствалоў. Ворка глебы ў садзе робіцца ўвосень. Але калі хто ня мог гэтага зрабіць і прапусьціў свой час—трэба зрабіць яе абавязкова раньняй вясной.

У старых садох, дзе плугам араць нельга, трэба перакапаць зямлю рыдлёўкаю або матыгай. Перакопваецца тая частка, над якой прасьціраюцца веткі і гальлё дрэва. Ворка і перакопка робіцца даволі глыбокай, каб паветра, вільгаць і страўныя рэчы з глебы лёгка маглі папасьці да карэньняў дрэў. Калі ворка была зроблена ўвосень, дык вясной яе трэба прабаранаваць.

Выкарыстоўваць сад для караньплодаў можна тады, калі ён пасаджаны рэдка і маладыя яшчэ. У старых садох рабіць гэтага ня варта, бо караньплоды зьмяншаюць корм для дрэва. У такіх садох лепш усяго трымаць зямлю пад папарам. Папар гэты трэба разоў 3-4 на лета баранаваць, каб не зарастаў травой.

### Угнаеньне пладовых дрэў.

Калі сад ня ўгнойваецца для караньплодаў,—глеба паступова пачынае бяднець і пусьцець. Тады прыходзіцца ўгнойваць сад з-за пладовых дрэў.

Матар'яламі для ўгнаеньня служаць: гной звычайны, гной разьмешаны ў вадзе, жыжа, попел і штучныя ўгнаеньні. Гной кладзецца або на ўсю плошчу сада і заворваецца ўвосень ці вясной пры ворцы сада, або ўгнойваюцца толькі часткі глебы ля ствалоў.

Апошняе робіцца пры перакопках сада. Гной павінен быць добра засыпаны зямлёй, апроч гэтага гной лепш усяго класьці ня зблізу ствала, а далей ад яго, каб уся патрэбная страва пападала на маладыя карэньчыкі.

Дзеля таго, каб угноіць дрэва разбаўленым у вадзе гноем, трэба вакол дрэва калом ці рыдлёўкай зрабіць некалькі вузкіх глыбокіх дзірак і наліць туды жыжы.

Дзіркі робяцца на такой адлегласьці, на якой капаюцца раўкі дзеля гною, г. зн. дзе канчаецца гальлё дрэва.

Калі жыжа прасочыцца ў глебу, ямы засыпаюцца зямлёй.

❋❋❋❋❋❋❋❋❋❋❋

# ДЗЕ РОБЯЦЦА АБОІ

Амаль што на самай акраіне гораду, сярод крывых і глухіх перавулкаў з пахіленымі хатамі, стаіць, пэхкаючы трубамі, невялікі аднапавярховы будынак.

Гэта—абойная фабрыка. Пакуль што толькі яна адна, з быўшых трох у горадзе, зноў пачала працаваць пасьля цяжкіх гадоў разрухі і акупацыі.

Але з гонарам перамагла фабрыка ўсё гэта. Зноў загрымелі варштаты, пацягнуліся з машын бесканцовымі істужкамі рулоны абояў. Не адразу і нялёгка дабілася фабрыка сучаснага свайго становішча. Доўга прышлося зьбіраць непапсутыя за часы вайны часткі машын з другіх фабрык, прыстасоўваць іх да тых, якія меліся на фабрыцы, аднаўляць некаторыя часткі аддзяленьняў спачатку.

Толькі дзякуючы вялізанай энэргіі саміх рабочых удалося пусьціць машыну ў ход. Вытворчасьць фабрыкі цяпер амаль што перавышае выбары даваеннага часу. І цяпер абоі яе ўжо далёка разышліся за межы БССР і аздабляюць сьцены самых далёкіх куткоў нашага Саюзу.

* * *

Калі ўвойдзеш у памяшканьне фабрыкі, адразу цябе агорне нейкім цёплым паветрам—параю і моцным запахам клею, фарбы. Куды ні глянеш—усюды раскінуты розна-каляровыя кадушкі, вёдры і г. д.

Накіданы цэлыя горы крэйды, якая тутака замяняе бяліла (белыя фарбы). Няма дзе і павярнуцца. Усюды мітусяцца рабочыя. Разьмешваюць фарбы, вараць сталярны клей (абоі друкуюцца клеевымі фарбамі), прыгатаўляюць розныя адценкі фарбаў для друкаваньня абояў.

Гэта—лябараторыя.

Прыгожа глядзець на гэтыя розна-каляровыя плямы ў кадушках і бочках! Здаецца, што ты знаходзішся ў майстэрні мастака, дзе ткуцца ўсялякія ўзоры, якія павінны аздабляць сьцены нашых кватэр. А гэтых узораў-малюнкаў фабрыка, дзякуючы ўмелым перастаноўкам клішэ*) паміж сабою і падбору адценьняў фарб, можа даць да 1.000 штук.



На абойнай фабрыцы. (Машына-самарэзка).

* * *

Вышэй, на другім паверсе, друкарскае аддзяленьне,—вялікае, доўгае памяшканьне. У рад пастаўленыя машыны. У гомане і шыпеньні гэтых машын, як змейка, выпаўзае істужка паперы і памалу, хвалюючыся ўзад і ўперад, на асобных дратох, паўзе ўсё наперад і прападае недзе там у глыбі памяшканьня.

Адтуль ізноў такім-жа шляхам варочаецца назад і ўжо зусім прасушанай скручваецца ў вялізныя шпулькі-рулоны.

Дзякуючы таму, што адна машына можа аднача́сова друкаваць у 3-4 фарбы

*) Малюнак, выразаны на дрэве або на цынку.

зусім закончаны малюнак, а таксама асобнай пабудове паравых труб, якія дапамагаюць хуткаму засыханьню фарбаў, атрымліваецца вялізная экономія ў часе. Кожная машына здольна выпусьціць да 2.000 каля 8-мімэтравых кавалкаў у адну гадзіну. А падумайце толькі—які вялізны лік абояў выпускаецца ў дзень!

І цяпер мне зразумела, чаму з такой гордасьцю і любасьцю да гэтых сталёвых машын адзін з рабочых апавядаў мне аб працы фабрыкі. Пры такім вялізным выпуску, яна можа задаволіць патрэбы БССР за 4 дні сваёй працы на месяц, а ўсе астатнія дні ёй прышлося-б быць беспрацоўнай. Адсюль відаць, якое вялізнае значэньне яна мае ня толькі для нас, але і для ўсяго нашага Саюзу.

Надрукаваныя шпулькі абояў большаю часткаю паступаюць у „самарэзальнае“ аддзяленьне, а частка йдзе на асобныя так званыя „гафрыравальныя“ машыны, якія вырабляюць больш дарагія сарты абояў.

* * *

—Д-р-р-р-чык, д-р-р-р-чык...—стаіць пастаянны гоман у самарэзальным аддзяленьні ад чыканьня нажоў і шалясьценьня скручваючыхся ролікаў паперы. Як быццам стараючыся навыперадкі адзін перад другім, дзесяткі два машын-самарэзак рэжуць рулоны абояў на роўныя часткі і выкідваюць усё новыя і новыя кавалкі іх. Каля кожнай такой машыны сядзіць жанчына і ледзь-ледзь пасьпявае заклейваць ролікі. Пальцы яе так хутка працуюць, што проста немагчыма сачыць за рухамі іх; праз кожныя 10-15 хвілін каля яе вырастаюць цэльныя горы абойных ролікаў.

Апрача гэтых аддзяленьняў, варта адзначыць глашчэльнае аддзяленьне. Тутака вырабляюцца асобныя сарты абояў, палітураваных воскам і стэарынам. Працаваць у гэтым аддзяленьні досыць цяжка. Тутака рабочыя працуюць амаль што зусім разьдзетымі. Малейшая неасьцярожнасьць у руху рукі пры націраньні рве ролікі абояў на кавалкі і псуе іх.

* * *

З самарэзальнага і глашчэльнага аддзяленьняў абоі ідуць ва ўпаковачную, адкуль і рассылаюцца на рынкі для продажу. Тутака яны канчаюць свой шлях і чакаюць пакупца, каб выканаць апошні свой доўг—аздобіць сабою памяшканьне чалавека.

**А. Тычына.**



*Піонэр за чытаньнем часопісі „Бел. Піонэр“ сваёй матцы.*

# КАРЫСНЫ АДПАЧЫНАК І ПРАЦА

## ШТО СКАЗАЛА НАРАДА НАСТАЎНІКАЎ, БАЦЬКОЎ І ПІОНЭР-ПРАЦАЎНІКОЎ

Пытаньню організацыі адпачынку піонэраў і набыцьця імі тэхнічных ведаў зараз надаецца вялікае значэньне. З мэтай абмеркаваньня гэтых пытаньняў, нядаўна была склікана ў Менску нарада, на якой прысутнічалі павадыры атрадаў, бацькі піонэраў і настаўнікі.

Каб высьвятліць, як працуюць нашы атрады, нарада заслухала і абмеркавала справаздачы трох павадыроў.

— Наш атрад падзяляецца на 5 звеньняў. Назва зьвяна адпавядае характару яго асноўнай працы, напрыклад, зьвяно „Чакіст“ ваенізуецца, вучыцца страляць і г. д.

Клюбу ў нас няма, заняткі праводзіліся дзе папала. Ня гледзячы на гэта атрад хутка вырас; за кароткі час мы пасьпелі ўцягнуць у свае шэрагі 30 дзяцей—адзначае ў сваёй справаздачы павадыр атраду пры шкляным заводзе.

**Атрад пры саюзе працасьветы.**

Мы практыкуем вечары піонэрскай самадзейнасьці. Хадзілі колектыўна на каток, дзе коўзаліся на лыжах, каньках і саначках, чым дзеці былі вельмі задаволены. Таксама колектыўна наведвалі кіно. Амаль уся праца атраду праводзіцца на беларускай мове. Выпадкаў выхадаў піонэраў з атраду у нас за апошні час не здаралася. Усёй працы шкодзіць адсутнасьць клюбу.



*Пашырайце тэхнічныя навыкі сярод піонэраў.*

**Павадыр атраду будаўнікоў**

кажа, што пры іх саюзе маецца 5 атрадаў, якія працуюць разам. Пры клюбе існуюць гурткі, пераплётны, сталярны і малярскі, у якіх піонэры займаюцца пад кіраўніцтвам, ведаючых гэту справу, комсамольцаў. Быў праведзен шэраг экскурсій на каток, электрастанцыю і г. д. Раней у нас бвыалі выпадкі выхаду дзяцей з атраду, але зараз іх няма. Гэта сьведчыць, што атрад здолеў зацікавіць піонэраў і даць ім тое, чаго яны патрабуюць.

Таварышы, якія выказваліся ў спрэчках, зазначалі, што справа з організацыяй адпачынку і тэхнавыкаў піонэраў ў атрадах вельмі і вельмі пастаўлена слаба. Тлумачыцца гэта пераважна тым, што нашы ўмовы працы часта не даюць магчымасьці зрабіць лепш: няма клюбаў, няма падрыхтаваных павадыроў, няма сродкаў і г. д. Асабліва адчуваецца *недахоп праверанага вопыту, які можна было-б скарыстаць усім атрадам.* Шмат якія з старых формаў працы атраду перажылі сябе. Іх трэба замяніць.

Задача ўсіх нашых атрадаў *высьвятляць свой вопыт у справе організацыі карыснага і разумнага адпачынку, а таксама і набыцьця піонэрамі тэхнічных навыкаў.*

**Піонэрпрацаўнік.**

# Б'Е ЖЫЦЬЦЁ

*(Менск).*

Клюб піонэратрадаў будаўнікоў складаецца з 5 пакояў. У першым зьмяшчаецца бібліотэка, якая налічвае звыш 300 кніжак—піонэрскай літаратуры і бэлетрыстыкі. Тут-жа маюцца розныя прылады для гульняў—шахматы, шашкі даміно і г. д.

У другім пакоі — спартыўная заля. Амаль кожны вечар комсамольцы-інструктары праводзяць тут з піонэрамі фізкультурныя заняткі.

3-ці пакой служыць для паседжаньняў саветаў атрадаў. Тутака-ж знаходзяцца інструманты для майстэрняў, куткі і вісяць насьценныя газэты.

Наступны пакой—чытальня. Апошняя заўсёды бывае поўнай, дзякуючы значнай колькасьці выпісваемага пэрыядычнага друку. Выпісваюцца газэты: „Звезда", „Чырвоная Зьмена", „Октябрь", „Піонэрская Праўда" і „Дэр Юнгер Піонэр",—часопісі: „Беларускі Піонэр", „Вожатый", „Пионер" і г. д.

Агулам 25 назваў.

Ёсьць яшчэ адзін маленькі пакойчык, у якім працуюць майстэрні: сталярная і пераплётная. Апошнія толькі нядаўна організаваны, але ўжо цяпер можна адзначыць некаторыя дасягненьні ў працы майстэрняў, асабліва пераплётнай. Піонэры ўжо навучыліся самастойна пераплятаць кнігі з сваёй бібліотэкі.

Цяга ў майстэрні вялікая. Але майстэрні могуць ахапіць ня больш 50 чал., дзякуючы недахопу абсталяваньня і інш. прычынам.

Насьценныя газэты выпускаюцца кожным атрадам. Большасьць з іх маюць багаты зьмест і ня кепска зроблены з тэхнічнага боку. Адна газэта нават атрымала прэмію на ўсебеларускім конкурсе насьценных газэт, наладжаным саюзам будаўнікоў.

Цікава адзначыць, як праводзіцца сярод піонэраў інтэрнацыянальнае выхаваньне. Падтрымліваецца сувязь з атрадамі паасобных нацрэспублік СССР, напр., *Закаўказьзем і Беластоцкай турмой у Польшчы. Нядаўна было наладжана кіно, атрыманыя сродкі пасланы палітзьняволеным праз ЦК МОПР'у.*

Ня гледзячы на тое, што склад піонэраў па нацыянальнасьці досыць разнастайны,—расійцы, беларусы, яўрэі і іншыя,—аніякіх спрэчак паміж імі на нацыянальнай глебе не наглядалася.

* * *

Мы толькі ў кароткіх і агульных рысах абмалявалі працу, якая праводзіцца ў гэтым клюбе. Як бачыце з вышэйпрыведзеных радкоў, піонэры будаўнікоў здолелі належным чынам скарыстаць свабодны час, організаваць свой адпачынак і наладзіць набыцьцё тэхнічных ведаў.

**Я. Зэльцар.**

# НАШЫ ПОСЬПЕХІ

(*Гомель, клюб пры атрадах дрэвапрацоўнікаў*).

Памяшканьне клюбу вельмі нязручнае і пагэтаму цяжка там весьці сталую працу.

Але ня гледзячы на ўсё гэта, клюб зьяўляецца месцам карыснай працы і адпачынку для дзяцей.

У клюбе кожны дзень бывае 20-25 піонэраў. Маецца клюбная камісія, якая выпрацавала плян працы і зараз сочыць за яго выкананьнем.

Організавана пераплетная майстэрня, у якой працуе 14 чалавек, пад кіраўніцтвам комсамольца. Матка аднаго піонэра кіруе гуртком рукадзельля, які наведвае 10 чал.

Акрамя гурткавой працы, у клюбе наладжваюцца чыткі і гульні. Некалькі разоў карысталіся чароўным ліхтаром для ілюстрацыі літаратурных гутарак. Правялі шашачны турнір. У клюбе маюцца розныя гульні, выпісваюцца газэты і часопісі.

Адно кепска, што ў клюбе брудна. Дзеці ня здымаюць вопраткі. Трэба пастарацца зрабіць, каб у клюбе было чыста і цёпла.

**І.**

## Будзем вучыцца рамяству.

*(Віцебск, атрады паўночна-заходняй чыгункі).*

На бацькаўскім сходзе піонэр-камісія ўзьняла пытаньне аб організацыі пры нашых атрадах гурткоў кройкі і шыцьця, для дзяўчат-піонэрак. Бацькі з радасьцю сустрэлі прапанову і абяцалі дапамагчы ўсімі мерамі гэтаму карыснаму пачынаньню. Тут-жа на сходзе некаторыя маткі згадзіліся быць кіраўніцамі гуртка. Дзеля таго, каб набыць сродкі для куплі машын і патрэбных прылад, мы організавалі грашовую лётарэю.

Х. Лабэцкі.

## Цешыліся самі і бацькоў цешылі.

*(Рудзенская школа, Сьмілавіцкага р.)*

Пры Рудзенскай школе маецца кавалак поля, які раней заўсёды пуставаў.

Мінулаю вясной школа скарыстала яго пад агарод, як паказальны вучастак. Дзеці выпрасілі ў бацькоў па некалькі капеек грошай і закупілі для агарода насеньне завадзкога гатунку. І вось на агародзе распачалася праца: дзеці рабілі грады, сеялі, саджалі караньплоды на іх, пад наглядам настаўнікаў школы. Прышла восень. Люба было прайсьціся ля град: ўсё парасло лепш, чым на суседніх агародах. Асабліва здаволенымі засталіся бацькі, дзеці якіх працавалі на агародзе.

Прышла зіма. У школе пачаліся заняткі. На дапамогу дзецям, ня маючым кніжак, прышоў агарод. Прадалі агародніну, якую вырасьцілі за лета, і атрымалі за яе 70 руб. За гэтыя грошы купілі кніжкі. Сёлетняй вясной, бязумоўна, школа яшчэ большую ўвагу зьверне на свой агарод. Гэта і карысная і выгадная справа.

З.

## Аб вечарох самадзейнасьці.

*(Нова-Барысаў, 52 атрад).*

Вечары самадзейнасьці ў нашым атрадзе праходзяць вельмі суха... Кепска падрыхтаванае выступленьне піонэраў, дэклямацыя, неорганізаваная гульня,—вось бадай і ўсё, што мы бачым на гэтых вечарох. У выніку—апошнія дзяцей не здавальняюць.

Чым гэта тлумачыцца? Папершае, каротка-тэрміновай падрыхтоўкай: за адзін тыдзень ці трохі больш добры вечар не падрыхтуеш. Падругое, кепска падрыхтаванай праграмай, не разьлічанай на самую шырокую самадзейнасьць самых дзяцей.

А. Фрумкіс.



*На піонэрскім агародзе.*

# МАЛАДЫЯ МАСТАКІ

Нядаўна рэдакцыя яўрэйскай піонэрскай газэты „Дэр Юнгэр Піонэр“ наладзіла выстаўку дзіцячых малюнкаў і абвясьціла конкурс на лепшы з іх.

Нашы маладыя мастакі жыва адгукнуліся на гэта і надаслалі досыць шмат малюнкаў, карыкатур, партрэтаў і г. д.

Вось вісіць партрэт т. Рыкава. Вы паглядзеце, як добра ён намаляваны, падобен на фотографічны здымак. Таксама мастацкі выкананы партрэты т. т. Кука, Клары Цэткін і г. д.

Добра вышлі ў нашых маладых мастакоў некаторыя малюнкі з дзіцячага і піонэрскага жыцьця, партрэты Леніна і некаторыя іншыя рэчы. Дарослыя ў сваіх заўвагах аб выстаўцы кажуць:

Настаўнік т. *Марголін*: „Трэба вітаць карысны пачатак рэдакцыі „Ю. П.“. Выстаўка дае вельмі шмат таго, што ўздымае дзіцячую думку, ініцыятыву і выклікае жаданьне самому зрабіць нешта падобнае таму, што яно бачыць“.

Рабочы тав. *Гэндаль*: „Маюцца вельмі прыгожыя малюнкі, якія заслугоўваюць сур'ёзнай увагі. Вы, дзеці, павінны і далей працаваць у гэтым напрамку з ранейшым запалам і жаданьнем“.



На фотографіі зьмешчана частка малюнкаў маладых мастакоў.

Выстаўка знаходзілася ў памяшканьні рэдакцыі „Юнгер Піонэр“. Прыблізна за тыдзень яе наведала некалькі тысяч асоб.

Усе яны далі добрыя водгукі аб здольнасьцях нашых маладых мастакоў.

У нашых атрадах знаходзіцца шмат дзяцей, якія маюць здольнасьць да маляваньня і нішто сабе малююць.

Такім чынам, падводзячы вынікі выстаўкі мы можам адзначыць, што яна сябе, бязумоўна, апраўдала. У далейшым рэдакцыя „Дэр Юнгэр Піонэр“ сумесна з рэдакцыяй „Беларускага Піонэра“ мае на ўвазе наладзіць шэраг падобных мерапрыемстваў, конкурсаў для выяўленьня творчасьці дзяцей.

**Глядач.**

# ЗЬНІШЧАЕМ НЯПІСЬМЕННАСЬЦЬ

*(Гарадзецкі атрад, Бабр. акр.).*

Выканаць заданьне па зьнішчэньню няпісьменнасьці мы даручылі асобным звеньням. Адно зьвяно пайшло ў пасёлак, зрабіла падлік няпісьменных і правяло з імі два сходы, дзе было растлумачана пытаньне аб зьнішчэньні няпісьменнасьці. Пасьля гэтага наладжваліся заняткі з няпісьменнымі.

Другое зьвяно, разам з настаўнікам, організавала заняткі з дарослымі няпісьменнымі. Цяпер, дзякуючы нашай працы, 15 няпісьменных дзяцей прысутнічаюць на занятках 3 разы ў тыдзень, дзе вучацца чытаць і пісаць.

Зараз піонэры рыхтуюць платны спэктакль на карысьць няпісьменных; за сабраныя грошы будуць куплены алоўкі, сшыткі і літаратура.

Піонэрка **Саснова.**

# З вуліцы—у прытулак

(Нарыс)

Цяпер шмат гавораць і пішуць аб бяспрытульнасьці і магчымасьцях яе ліквідацыі. Кожнаму з нас напэўна прыходзілася бачыць на вуліцах гэтых апранутых у дзіравае зрэб'е хлапцоў, якія ня маюць бацькоў, сваёй хаты, прытулку і завуцца бяспрытульнымі.

Пры Менскім Акруговым Аддзеле Народнай Асьветы існуе спэцыяльная камісія для дапамогі дзецям і, у прыватнасьці, бяспрытульным. Выявіўшы апошніх, камісія, пасьля досьледу іх становішча, накіроўвае іх у прыёмнік для бяспрытульных.

Пры ўваходзе ў памяшканьне адзначанага будынку, цябе акаляюць дзеці самага рознастайнага ўзросту (ад 7 да 17 гадоў) — выхаванцы прыёмніку. Адчуваецца, што гэта ня тыя звычайныя дзеці, якіх мы з вамі прызвычаіліся бачыць штодзенна. Асьцярожны, недаверлівы выгляд, шустрыя маленькія вочкі,—вось тып бяспрытульнага.

Твары большасьці бяспрытульных апавядаюць аб тых пакутах, голадзе і холадзе, якія давялося перанесьці гэтым дзецям. Гісторыя кожнага выхаванца, яго прыгоды, маглі-б паслужыць тэмай для апавяданьня.

Вось маленькі, порсткі хлопчык, гадоў 8-9 па выгляду. Ня гледзячы на свой малы ўзрост, ен пасьпеў уцячы з сваёй хаты, ад бацькоў, і павандраваць у шмат якіх мясцох. На запытаньне: „чаму не зьвяртаешся да бацькоў?“ —ён нездаволена адказвае:

— Не, не, ніколі! Бацька самагонку гнаў, часта напіваўся і біў мяне! Вось за гэта і ўцёк!

Ён падобны на дарослага—гэты васьмігадовы карапуз! Сур'ёзны твар, шустрыя, уважна разглядаючыя вас вочы сьведчаць, што хлапчына прайшоў ужо навуку жыцьця і ведае значна больш, чым любы хлапец яго ўзросту.

Ёсьць бяспрытульныя, якія, трапіўшы ў прыёмнік, ня любяць яго, ня выносяць існуючай тутака дысцыпліны і пасьля некалькіх дзён уцякаюць, загадзя захапіўшы з сабой „на памяць“ якую небудзь рэч. За апошнія месяцы было некалькі такіх выпадкаў.

Але ня трэба думаць, што ўсе дзеці такія. Большасьць з іх, пад уплывам выхавацеляў, паступова пазбаўляюцца сваіх дрэнных прывычак (курэньне, лаянка і інш.), а замест іх набываюць санітарныя, соцыяльныя і культурныя навыкі. Наогул, трэба адзначыць, што ўся праца выхавацельскага пэрсанала накіравана к таму, каб зрабіць дзяцей культурнымі, сьвядомымі і сумленнымі.

Як праходзіць дзень у прыёмніку?

Раніцаю, у 7 з паловай гадзін, дзеці ўстаюць, прыбіраюць памяшканьне (у прыёмніку ўстаноўлена самаабслугоўваньне) і сьнедаюць. А 9-й гадзіне некаторыя (18 чал.) накіроўваюцца ў школу. А 2-3 гадзіне ўсе палуднуюць, пасьля чаго цягнецца, г. званая, вольная гадзіна.

Вечарам праводзяцца клюбныя заняткі, чытка літаратуры, газэт, гутаркі. Потым—вячэра і нарэшце сон.

Трэба адзначыць, што кормяцца дзеці здавальняюча і ня скардзяцца на яду. Толькі з вопраткай і лыжкамі справа стаіць горш,— не хапае на ўсіх. Гэта тлумачыцца недахопам сродкаў.

Усяго тут жыве 44 чал. дзяцей, з якіх 40 хлапцоў і 4 дзяўчыны.

* *
*

Выходзім з прыёмніку. Ужо адышлі значную адлегласьць, але ў галаве яшчэ паўстаюць малюнкі бачанага, у вушах зьвіняць дзіцячыя галасы.

„Вось дзе багатая глеба для працы піонэраў!“—думаецца мне. Атрад, які зьвяжацца з гэтымі дзецьмі, азнаёміць іх з мэтамі і задачамі нашай організацыі і, нарэшце, здолее іх уцягнуць у піонэрскія шэрагі— гэты атрад зробіць вялікую і карысную справу, дапаможа перетварэньню бяспрытульных у культурных і сьвядомых дзяцей, будучых грамадзян нашай рэспублікі.

**Яз. Лявонаў.**

# ЗА ВУШКА ДЫ НАПАКАЗ

## „Заўтра“.

Добры, як відаць, чалавек павадыр атраду імя Адамовіча (Жылехаўскі с.-с., Случчына). Калі піонэры прыходзяць да яго з просьбай склікаць сход атраду (якога ўжо даўно ня было), дык ён ім заўсёды адказвае:

„Заўтра будзе сход, бо сёньня няма часу“.

А заўтра... як чытач ужо пэўна дагадваецца, заўтра адбываецца тое, што і сёньня. Піонэры зноў пойдуць да павадыра прасіць яго, каб склікаў сход, той зноў ім адкажа, што „заўтра будзе сход, бо сёньня няма часу“ і гэтак без канца.

„І сапраўды. Чаго яны лезуць, чаго ім яшчэ трэба? Я-ж кажу: „прыходзьце заўтра“, а яны ўсё прыходзяць сягоньня. Вось несьвядомыя, а яшчэ піонэры“,— разважае, як відаць, павадыр.

Але цікава, як разважае наконт гэтага праклятага „заўтра“ мясцовая ячэйка ЛКСМБ?

## Выпярэдніцтва ў адваротны бок

Як часта выходзіць у Любоніцкай сямігодцы насьценная газэта? Вы думаеце 2 разы ў месяц? Раз?

Не, памыляецеся. Рэдкалегія Любоніцкай сямігодкі не такая несьвядомая, як вы думаеце. Яна ня любіць чакаць так доўга і выпускае газэту акуратна і своечасова... раз у тры месяцы!

Вы ня дзівецеся таму, калі 1-га мая ў сямігодцы ўбачыце нумар газэты, прысьвечаны сьвяту Кастрычнікавай рэволюцыі ў мінулым годзе. Вы прымеце пад увагу тэрмін, які аддзяляе май ад лістапада і пахвалеце рэдкалегію за тое, што яна ў маі, за поўгода раней, дае вам магчымасьць пазнаёміцца з газэтай, якая павінна выйсьці ў лістападзе... Гэта рэдкалегія, як відаць, выперадзіла ўсе іншыя рэдкалегіі нашых атрадаў.

**Мікраскоп.**

# ТАМ, ДЗЕ ГОРА І ЗЬДЗЕКІ ПАНУЮЦЬ

## У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ—ДЗЕЦІ ПАКУТУЮЦЬ

У савецкай краіне дзеці рабочых і сялян маюць свае організацыі, піонэрскія атрады. У школах аб'яднаюцца ў розныя гурткі, свабодна абмяркоўваюцца розныя пытаньні, тут дзеці—новыя будаўнікі.

Недалёка ад нас—у заходняй Беларусі (пад панскай Польшчай)—над маладым пакаленьнем—дзецьмі ўчыняюцца зьдзекі. Там над галовамі дзяцей вісіць панскі бізун, там настаўнік—кат, там чуюцца енкі дзяцей.

Дзеці ня маюць магчымасьці вучыцца ў сваіх родных школах,—школы пазачыняны. У заходняй Беларусі ўжо зачынена 382 беларускія школы; 18 школ перароблены ў польска - беларускія, каб потым апалячыць і гэтыя. Зараз на 27 паветаў маецца ўсяго 4 беларускія пачатковыя школы. Сялянства падало 412 заяў на адчыненьне беларускіх школ, і ўсе гэтыя заявы былі пустым гукам для ўлады. Урадам адчыняюцца польскія школы, пад прымусам нагаек адчыненыя сялянствам беларускія прыватныя школы зачыняюцца ўрадам.

Сяляне ня пускаюць дзяцей ў польскія школы—за гэта іх штрафуюць. „Няхай лепш бадзяецца дзіця невукам, а там далучымся да Савецкай Беларусі—дык нагоняць“—кажуць сяляне. Дзеці самі выносяць протэсты, каб выкладаньне было на беларускай, а не на польскай мове. У аднэй польскай школе было такое здарэньне: настаўнік сказаў вучням: „на ютро жэбы кажды мял жэшыт“ і паказаў у руцэ сшытак. Вучань зразумеў што сшытак трэба абшыць ніткамі. Назаўтра на пытаньне настаўніка, ці ўсе маюць сшыткі? Той вучань адказаў: „я зрабіў“, і паказаў яму абшыты ніткамі сшытак. Вось прыклад, як разумеюць беларускія дзеці польскую мову.

Настаўнікі беларусы з Заходняй Беларусі высяляюцца, а заместа іх даюцца настаўнікі-палякі. Гэтыя настаўнікі ня вучаць, а мучаць дзяцей, замест вучобы прымушаюць працаваць дзяцей на карысьць настаўніка. *„Дзеці прыходзяць у школу, а настаўнік сьпіць! Тады ён устане і загадае дзяўчатам-вучаніцам скрэбці бульбу, а хлопцам-вучням — курку скубці. А як навараць есьці вучыцелю і ён наесца—пачынае тады „вучыць“. Загадвае дзецям сьпісаць яму праваслаўную малітву, а сам некуды йдзе; дзеці-ж на „лекцыі“ адны! А то бывае выгане дзяцей на мароз, а сам, зачыніўшыся ў клясе, „гасьцей прымае“... вучыцель прымушае дзяцей, каб прыносілі яму мяса, яйкі, каўбасы і іншыя рэчы“*—так пішуць самі сяляне аб жыцьці школ у заходняй Беларусі і аб іх настаўніках. Пануюць у школах і „мардабойствы“, ад чаго дзеці



*Заходняя Беларусь—адна турма.*

кідаюць школы. Настаўнікі ўхітраюцца браць і за гэта магарычы з сялян, бо па яго даносу іх могуць аштрафаваць, што ня пускаюць дзяцей у школу.

Польская школа мала прыносіць карысьці для дзяцей-беларусоў; школа не бярэ на сябе абавязка організаваць пазашкольнае жыцьцё вучняў. Таксама і ў сьценах школы вучні ня могуць організаваць свой вольны час, пачытаць кніжку, газэту, пагуляць. Навука іх ня цікавіць, бо яна даецца ім у чужой і незразумелай мове. Сядзіць, сядзіць іншае дзіця за лемантаром гады 3-4, а прыдзецца—дык і літараў ня знае.

У заходняй Беларусі для сялян, рабочых, іх дзяцей ня толькі не даступныя школы, там разганяюцца розныя организацыі, саджаюцца за палітычную дзейнасьць лепшыя рабочыя і сяляне. Там у турмах пакутуе 6 з паловай тысяч чалавек рабочых і сялян і ў гэтым ліку не малы процант і моладзі.

Там, у Польшчы, рабочая моладзь жыве ў нязвычайна дрэнных умовах.

Ад непамернай працы моладзь хварэе: там на кожных 7 чалавек маладых рабочых—1 хворы сухотамі. І гэта ня дзіва, калі прымушаюць працаваць у дзень па 12-14 гадзін...

*Моладзь, дзеці рабочых і сялян заходняй Беларусі і Польшчы чакаюць ад нас дапамогі.*

*Зробім усё магчымае, каб дапамагчы дзецям рабочых і сялян заходняй Беларусі і Польшчы!*

**Адась Ветка.**

## Ліст піонэраў Польшчы

**ДАРАГІЯ ТАВАРЫШ!**

**Ліст Ваш, які даводіцзь нам аб тым, што Вы памятаеце і не забываецеся нас, мы адтрымалі ў час падрыхтоўкі да міжнароднага дзіцячага тыдню. Вы, бязумоўна, разумееце, што мы не маглі правесьці гэтае сьвята так вольна і адкрыта, як зрабілі Вы і нават дзеці іншых капіталістычных краін.**

**Мы, піонэры Польшчы, дзе белы тэрор з кожным днём усё ўзмацняецца і ўзмацняецца, пазбаўлены ўсякай волі. Але мы верым, што шляхам організаванага змаганьня мы зможам яе заваяваць. Дзеля таго, каб утварыць такую моцную організацыю, мы прыцягваем у свае шэрагі шырокія дзіцячыя масы. Наша організацыя пашыраецца з кожным днём у большасьці за лік дзяцей сярэдніх і народных школ.**

**Даволі часта мы наладжваем экскурсіі ў паасобныя школы і раёны, каб лепш пазнаёміцца адзін з другім. Дзеля таг , каб ушанаваць памяць якога небудзь павадыра, ці адсьвяткаваць якое небудзь сьвята, мы наладжваем вечары. Гэтыя вечары нелегальныя*) і наладжваюцца ў маленькіх пакойчыках, дзе цесна і мала паветра. Мы зьбіраемся маленькімі групамі, дзеля таго, каб вучыцца змагацца са зьдзекамі.**

**Мы таксама імкнемся распаўсюдзіць свой уплыў на дзяцей, з якімі сустракаемся ў школе ці на працы.**

**У сучасны момант мы выдаем газэтку, што зьяўляецца ў нашых умовах даволі цяжкай справай.**

**Працягваем Вам братэрскую руку. Абяцаем Вам, што працаваць сярод пролетарскіх дзяцей і організоўваць іх для змаганьня мы заўжды будзем гатовы!**

**З піонэрскім прывітаньнем.**

**ПІОНЭРЫ ВАРШАВЫ.**

# Дапамагаем галадаючым дзецям Заходняй Беларусі

## Бярэце прыклад.

Піонэры форпосту пры *Круглянскай школе* сабралі сярод вучняў і піонэраў больш за 4 руб. грошы на карысьць *галадуючых дзяцей Заходняй Беларусі.* Збор праходзіў пры агульнай зацікаўленасьці і ажыўленасьці. Кожны з ахвотай аддаваў сваю апошнюю капейку, ведаючы, што гэтым прыносім вялікую дапамогу сваім братом і сёстрам Заходняй Беларусі.

Мы жадаем, каб усе форпосты нашых школ правялі такія зборы.

**Гарадзінскі.**

*) Патайныя ад улады.

## Уносім і выклікаем

Мы, вучні Лаперавіцкае школы С.-Гарадзецкага сельсавету, Заслаўскага раёну: *Бразінскі Франук, Мазуркевіч Браніслаў, Мазуркевіч Язэп, Казак Уладзімір, Вайцюк Стася, Павіч Ганна, Павіч Браніслаў, Казак Антось, Павіч Алеся*, уносім на карысьць *галадуючых дзяцей Заходняй Беларусі пяцьдзесят (50) капеек* і выклікаем зрабіць гэта наступныя суседнія школы: Семкава-Гарадзецкую, Загорынскую, Аронава-Слабацкую і іншыя школы нашага раёну, а таксама ўсіх вучняў нашае Рэспублікі. Не дадзім загінуць нашым братом у Заходняй Беларусі!

**Вучні Лаперавіцкае школы С.-Гарадзецкага сельсавету, заслаўскага раёну.**

## На карысьць МОПР-у

(*Кармаўская сямігодка, Маг. акругі*).

Пры нашай школе маецца ячэйка МОПР-у, якая налічвае 30 сяброў.

На сродкі сяброў ячэйкі мы правялі лётарэю сярод вучняў школы. Лётарэя дала нам больш чатырох руб., якія мы перадалі на карысьць МОПР-у і гэтым самым колькі маглі дапамаглі сваім заходнім братом.

**Караткевіч Ж.**

## УСЕ ПІОНЭРЫ—МУЗЫКІ

**Шумавы аркестр у піонэрскім атрадзе.**

Нічога, мабыць, так моцна ня любіў у жыцьці Цімка, як музыку. Яшчэ будучы маленькім дзіцем, ён кожны вечар уцякаў з хаты да старога Астапа і прасіў яго пайграць на скрыпцы. Калі дзед канчаў музыку, Цімка весела снаваў вочкамі па хаце і ад радасьці пачынаў стукаць у ладкі.

Калі Цімку стала 8 гадоў, яму бацька купіў губны гармонік. На ім Цімка хутка навучыўся іграць шмат скокаў, песень і перастаў хадзіць да дзеда Астапа слухаць плач скрыпкі.



*Шумавы оркестр Цімкі.*

* * *

Пасьля раённай піонэрскай нарады, на якой прысутнічаў і Цімка, местачковыя піонэрскія атрады наладзілі канцэрт. Цімку вельмі спадабаўся шумавы аркестр. Ідучы дахаты, ён часта перадражніваў вясёлы скрыгат вялікай кардоннай трубы і, калі яму ўдавалася ўтварыць гук, падобны тым, якія чуў у мястэчку,—ён заліваўся радасным сьмехам.

На другі дзень Цімка пазваў да сябе сваіх трох таварышоў—Юзю, Міколку і Аркадзю. Аднаму з іх даў абхінуты тоненькай паперай грабеньчык, другому—

яловую дудку, трэцяму зрабіў з кардону трубу-рупар, сам узяў свой губны гармонік і пачалі выгрываць мотыў „Піонэраў сям'я".

Спачатку ўсё зьлівалася ў кучу і атрымоўвалася сапраўдная каша: нельга было распазнаць, што яны хочуць іграць. Мучыцца многа дзецям ня прышлося. Хутка яны злаўчыліся, і песьня „піонэраў сям'я" пашла, як па масьле.

Дзеці парашылі нікому не хваліцца пра сваю музыку і да чарговага збору атраду падрыхтаваць наступныя песьні: „Марш піонэраў", „Між балот, між палёў", „Сьвеціць месяц і ня грэе" і „Жураўля".

Калі павадыр атраду скончыў гутарку і абвясьціў збор атраду закончаным, Цімка папрасіў усіх піонэраў паслухаць іх музыку.

Музыкі ўжо сыгралі па два разы кожны свой нумар, а піонэры не адставалі і настойліва прасілі іграць і іграць.

Калі піонэры сахвоціліся слухаючы, Цімка расказаў, як яны навучыліся іграць, дзе ён бачыў такі аркестр, пагутарыў з павадыром і абвясьціў запіс у лік музыкаў шумавога аркестру, які ўтвараецца пры іх атрадзе. Запісаліся амаль што ўсе піонэры і некалькі дзяцей не-піонэраў.

Потым дагаварыліся, каму якія трэба прыносіць „музычныя інструманты", як кажуць, разьмеркавалі паміж сабою ролі, назначылі на заўтра заняткі аркестру і разьбегліся па хатах.

**„Інструманты шумавага аркестру".**

Вакол Цімкавага аркестру згуртавалася 40 дзяцей. Яны ўжо шмат разоў выступалі на піонэрскіх і комсамольскіх вечарох, іх ужо ведае ўся вёска, яны ўжо шмат чаго зрабілі.

А каб сказаў цяжка?—справа лёгкая і вельмі цікавая.

Піонэрскі шумавы аркестр, утвораны Цімкам, мае наступныя „музычныя інструманты":

*Грабеньчыкі.* На іх павінна йграць прыблізна палова ўсяго аркестру. Каб зрабіць з грабеньчыка „інструмант", трэба яго абхінуць тоненькай паперкай, прыкласьці да губ і—выводзь патрэбную мэлёдыю.

*Гармонік, скрыпка, балалайка.* Гэтым інструмантам разам з грабеньчыкамі належыць у аркестры задача—даваць тон, весьці мэлёдыю.

Далей ідуць інструманты, якія акампаніруюць, гэта значыць дапамагаюць першым выконваць абраны мотыў. Да іх належаць:

*Кардонная труба (рупар).* Яе робяць даўжынёй прыблізна з аршын, шырыня большага канца вяршкі чатыры, і дзьмуць з патрэбнымі перарывамі.

*Стальныя трыкутнікі.* Іх падвешваюць на нітачцы і б'юць другой жалезнай палачкай, што ўтварае гукі, падобныя да гукаў маленькіх званочкаў.

*Талеркі.* Іх трэба папрасіць у духавым аркестры. Калі такіх ня знойдзецца, талеркі можна замяніць патэльняй ці юшкамі.

*Лыжкі.* Бяруць між пальцаў звычайныя дзьве лыжкі і, стукаючы па калену, атрымоўваюць глухія гукі трашчоткі.

*Бубен.* Апрача таго, што бубен дае моцныя гукі. пры дапамозе яго можна перадаць малюнак працы заводу, паданьня вады, трывожных сыгналаў і інш.

*Бутэлькі.* Імі больш за ўсё карыстаюцца, як добрай падмогай пры выкананьні вясёлых нумароў (барыня, лявоніха), а таксама пры выкананьні маршаў.

Раней чым скарыстаць іх, Цімка з Аркадзем прарабілі наступнае: Узялі дошку даўжынёю ў адзін мэтр і 10 сантымэтраў у шыркі. У адзін край убілі 7 цьвікоў. Да канцоў прымайстравалі чатыры ножкі—у выглядзе ўслончыка. Да горлышка кожнай бутэлькі прывязваецца вяровачка, пры дапамозе якой бутэлька прымацоўваецца да цьвічка. У кожную бутэльку наліваецца крыху вады, у кожную не аднолькава. Чым больш вады—тым гук будзе грубейшым, чым менш — наадварот. Падліваючы вады больш і менш, з дапамогай настаўніка, Цімка атрымаў гаму і ўверсе, над кожнай бутэлькай, напісаў—до—рэ—мі—фа—соль—ля—сі.

Вось і ўсе „інструманты", на якіх іграе піонэрскі шумавы аркестр, арганізаваны Цімкам.

Да заняткаў аркестру прыцягваецца настаўніца, якая дапамагае правільна разучыць той ці іншы нумар, вывучвае з дзяцьмі новыя мотывы.

**З. Паваротны.**

# Што трэба ведаць аб зубной шчотцы

Зубныя шчоткі бываюць розныя: жорсткія, мяккія, простыя, выгнутыя... На якой спыніць свой выбар?

Трэба выбраць шчотку сярэдняй жорсткасьці, дзецям—меншую (3 радкі), дарослым—большую (4 радкі). Форма ня мае асаблівага значэньня. Шчотка непавінна быць вельмі густою,—чым шчацінкі цясней стаяць адна да аднэй, тым цяжэй яны пралазяць паміж зубоў. А ў апошнім—галоўнае значэньне шчоткі.

Догляд зубоў павінен пачынацца з раньняга дзіцячага ўзросту: „Першаю цацкаю для дзяцей павінна быць *зубная шчотка*",—кажуць амэрыканцы. Ня дрэнна было-б і нам прытрымлівацца гэтага погляду пры выбары падарункаў для акцябрат.



**Аб зубным парашку.**

Большасьць ужываюць для чысткі зубны парашок, які прадаецца ў гатовым выглядзе. Можна чысьціць зубы проста ачышчаным мелам. Вугальны парашок для гэтай мэты трэба прызнаць шкодным. Ад доўгага ўжываньня вуглю на краёх дзяснаў зьяўляецца сіняватая палоска, якую ніякім чынам ня можна зьнішчыць. Таксама ня раіцца ўжываць попел з папярос.

**Як чысьціць зубы.**

Часта мы чуем ад нашых хворых, што яны пасьля кожнай яды добра чысьцяць зубы; між тым, трэба толькі зірнуць на зубы, каб пераканацца, што гэтая чыстка нічога ня варта.

Як-жа трэба чысьціць зубы?

Перш за ўсё трэба добра памятаць, што мы чысьцім зубы не для таго, каб навесьці на іх бляск і пекнату, а для таго, каб зьнішчыць тыя астаткі яды, якія застаюцца між зубоў. Загніваючы, гэтыя астаткі яды і зьяўляюцца прычынаю псаваньня зубоў. Як чысьціш зубы, дык шчоткай трэба шараваць ня толькі з правага боку ў левы, як мы гэта заўсёды робім, а і з нізу ўверх. Толькі такім чынам можна захапіць і вычысьціць паміж зубоў. Мы павінны адчуваць, як шчацінкі зубное шчоткі пралазяць паміж зубоў. На гэта звычайна ніхто не зварочвае ўвагі.

Чысьціць зубы трэба так, як быццам ты даглядаеш за кожным зубам паасобку.

Шмат хто пры чыстцы больш увагі зьвяртае на пярэднія зубы. Гэта ня правільна. Чыстка павінна быць аднальковай для ўсіх зубоў.

Калі адзін доктар запытаўся ў вучня першае клясы, як ён чысьціць зубы, вучань адказаў:

„Я чышчу зубы сьпераду, ззаду, зьверху, зьнізу, з сярэдзіны, знадворку...

Толькі такім чынам можна добра вычысьціць зубы.

**Калі чысьціць зубы.**

Зубы трэба чысьціць два разы ў дзень—раніцою і ўвечары. Вечарам чыстка аслабаняе зубы ад астаткаў яды, якія ў начы пачалі-б загніваць. Чыстка раніцою аслабаняе зубы ад таго белаватага налёту, які ў кожнага з нас утвараецца за ноч.

Калі чысьціць зубы толькі адзін раз у дзень, дык гэта трэба рабіць перад сном, раніцою-ж добра папаласкаць рот.

**Аб зубачыстцы.**

Акрамя зубное шчоткі, зьнішчыць астатак яды, якая застаецца паміж зубоў, можна яшчэ пры дапамозе зубачысткі. Зубачыстку лёгка самому зрабіць з гусінага пяра ці з дрэва (з запалкі, напрыклад). Ні ў якім выпадку нельга ўжываць іголкі, шпількі і г. д.

Прывычка чысьціць зубы не павінна пераходзіць у дурную прывычку калупаць у зубох. Пасьля ўжываньня зубачысткі, рот трэба прапаласкаць. **Трахтман.**




**Задачы і загадкі (Дз. М.)**

1. Як падняць 1 запалкай 15 зап.?

2. Ад жалезнай ці сталёвай ніткі адняць літару, каб засталася частка твару. Якая?

3. Якіх 2 склады і як трэба паставіць, каб атрымалася тое, што ты цяпер бачыш. Яно перад тваймі вачыма. Ну, якія?

4. Чым канчаецца звычайная простая гісторыя?

5. Чырвоныя дзеўкі ў зямлі, косы на паверхні. Што гэта?

6. У якой старонцы Эўропы маецца самы вялікі бот?

7. У кошыку было 6 яблыкаў. Тры хлопчыкі падзялілі іх паміж сабой пораўну, пры гэтым кожны атрымаў па 2 яблыкі. Пасьля дзеляжа ў кошыку засталося 2 яблыкі. Як гэта здарылася?

8. Адзін піонэр вышаў з вёскі ў горад. Прайшоў 12 вёрст і яшчэ палову сваёй дарогі і тады толькі дайшоў да горада. Колькі вёрст ад вёскі да горада?

**У доктара (жарт Дз. Міхалкі)**

Доктар (да прышоўшага хворага): Ваша хвароба нязвычайная; я нават не магу пэўна сказаць, што ў вас...

Хворы: Што-ж рабіць, доктар?!

Доктар: Гэта нічагуткі. Я спрабую спачатку вам адпілаваць адну нагу, а пасьля другую, і такім чынам мы выясьнім вашу хваробу.

**На лекцыі літаратуры (Дз. М.)**

Настаўнік (да вучня): Скажы, калі ласка, „Новая Зямля“ Я. Коласа чый будзе твор?

Вучань: Точна не магу сказаць... Але здаецца, што таго-ж аўтара чый і „Сымон Музыка“.

**Ход каня № 1 (Ляшэвіч).**

| | | | |
|---|---|---|---|
| ы | с | а | р |
| ц | т | к | ы |
| о | ч | а | л |
| | ці | н | |
| | г | і | |

Ходам каня прачытаць прозьвішча (праўдзівей—псэўдонім) беларускага пролетарскага пісьменьніка і поэты і назву яго твору.

**Разьвязаньне задач, зьмешчаных у № 1—2.**

Задачка № 1: „Маладняк“, Чарот.
„ „ 2: Гомель.
„ „ 3: =$\frac{OO}{OO}$
„ „ 4: КСМ
„ „ 5: ТОК, КОТ.
„ „ 6: $9\,{}^{9}/_{9}$.

Арытмэтычная задача: узносы—5 кап., піонэраў—8 чалавек.

Хто разьвязаў: *Алесь Адашчык, В. Гаваркоў, П. Казлоўскі, А. Сабалёў, Ф. Гайдукевіч, М. Сасін, Г. Фрэйдзін, Я. Грыневіч.*

# З дзяткораўскіх лістоў.

*Ня маюць клюбу* піонэрскія атрады м. Турава (Мазыршчына). З гэтай прычыны няма магчымасьці праводзіць сходы атрадаў і заняткі зьвеньняў.

**Бурман Я.**

*Старобінскі атрад імя Варашылава,* акрамя пісьмовай сувязі з падшэфным атрадам в. Дубеі, дапамагае апошняму і матэрыяльна. **І. Пятровіч.**

*Пры Любоніцкай сямігодцы* (Бабруйшчына) існуе літаратурны гурток, які налічвае ў сваіх шэрагах 18 сяброў. У працы гуртка прымаюць удзел дзяткоры, настаўнікі і маладнякоўцы.

**Дзяткор.**

*Грозаўскія піонэры* (Случчына) сваімі сіламі *паправілі дарогу*, якая праходзіць праз мястэчка. Гэтым мы выклікалі падзяку з боку сялянства і заваявалі сярод яго аўторытэт. **Фаня Шульман.**

*Над Койданаўскім атрадам імя Лепсэ* шэфствуе мясцовы саюз мэталістаў. Нядаўна шэф падараваў нам сыгнал, бібліотэчку і некаторыя іншыя рэчы.

**Н. Л.**

*20-га лютага* адбыўся ў м. Крычаве вечар, прысьвечаны 4-хгодзьдзю існаваньня мясцовай піонэр-організацыі. Апошняя за 4 гады значна вырасла і мае шмат дасягненьняў. **Я. Сьліва.**

*Заняпала праца* гуртка дзіцячых корэспондэнтаў пры 58 атрадзе (м. Леніна). Гэта тлумачыцца адсутнасьцю кіраўніка, знаёмага з корэспондэнцкай справай,

**Алесь Балашэвіч.**

*Яшчэ зусім нядаўна* піонэры м. Любонічы і ў вочы ня бачылі „Беларускага Піонэра“, а зараз ня тое. Амаль што ўсе піонэры колектыўна выпісваюць часопіс і прыахвочваюць да таго-ж вучняў.

**Дзяткор.**

*У Капыльскай* сямігодцы (Случчына) ня выходзіць насьценная газэта. Трэба вучкому паклапаціцца аб гэтым і наладзіць выданьне насьценнай газэты.

**Ю. Малевіч.**

*Талочынскія* піонэры (Аршаншчына) заваявалі аўторытэт сярод сялянства сваёй грамадзка-карыснай працай. *Піонэры выкапалі* крыніцы, з якіх бярэ ваду вясковае насельніцтва. **Х. Зак.**

*Наладзілі збор* грошай у карысьць палітвязьняў у Польшчы вучні Круглянскай сямігодкі (Аршаншчына). **Піонэр.**

*У Барысаве* адчыніўся агульна-гарадзкі піонэрскі клюб, дзе кожны вечар праводзяцца гутаркі, гульні і г. д. Пры клюбе маецца шмат гурткоў.

**З. Левін.**

*Зьнішчылі перагрузку* піонэры 115 атраду м. Багушэвічы. Амаль кожны піонэр цяпер мае адзін які-небудзь абавязак.

**У. Сьцянькоўскі.**

# Паштовая скрынка.

**В. Трусу, Я. Мацкевічу, Я. Сьліве, Рогаву, В. Бяздольнаму, Кашчавому, Гвазьдзёву, Дзеркачу, Х. Рубаніку, А. Жардэцкаму, Янку Акулічу, Мастачку, В. Буланаву, Я. Пятровічу, Б. Шарупіну, М. Вержбіцкаму, Сьценкору, М. Фярко, Якубовічу, С. Кураедаву, А. Адашчыку, Р. Элькінд, А. Драніцкаму і Я. Астроўскаму.** Вашыя допісы зьмешчаны ня будуць, бо апісваеце вы ў іх дробныя факты, няцікавыя для нашых чытачоў.

**Г. Рыкліну:** твае допісы скарыстаем.

**Ю. Малевічу і Л. Кандыбовічу:** у бліжэйшых нумарох „Б. П.“ будзе зьмешчан шэраг навукова-папулярных артыкулаў.

**Ф. Шульман, Х. Лабэцкаму:** пішэце, як піонэры вашых атрадаў організуюць свой адпачынак.

**Грышку Клёну, Я. Акулічу, Р. Паддубнаму, З. Бульбяніку, Н. Вярбовічу:** з прысланых вамі вершаў да друку ніводзін не падыходзіць, слаба напісаны.

**А. Малевічу:** дарэмна, браток, скардзішся, што ў нашай часопісі ня друкуюцца матар'ялы ў дапамогу дзеткоргурткам. Прачытай артыкул **Н. Вайнгаўза** зьмешчаны ў 1—2 і 3—4 нумарох „Беларускага Піонэра“ за гэты год.

**Бяздольнаму В.:** допіс „ня прыцягваюць, а адцягваюць“, які ты праслаў, даўно ужо быў зьмешчаны ў нашай часопісі за подпісам **Сяльноўскага.** Нявapта перапісваць чужых допісаў.

**Усім астатнім дапішчыкам** адказы будуць зьмешчаны ў чарговым нумары.

**Стральчэню М.,** свой верш „Прысьвячэньне“ ты заканчваеш так:

... скажы, чаму ты ня чытаеш
сьцішкі нязграбныя мае?..

Відаць, тая асоба, якой прысьвячаюцца гэтыя радкі, зьяўляецца адукаванай і разумее кошт такіх вершаў. Рэдакцыя зусім згаджаецца з ёй (гэтай асобай).

Вось чаму верш застаецца непрачытаным і ненадрукаваным.

1-ая Дзяржаўная др. Заказ № 1723. Галоўлітбел № 24859.

Цана 12 кап.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

**НА ІЛЮСТРАВАНУЮ ДЗІЦЯЧУЮ ЧАСОПІСЬ**

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ на сваіх старонках зьмяшчае самыя рознастайныя матар‘ялы, цікавыя для піонэраў, школьнікаў і ўсіх дзяцей.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ уводзіць шэраг новых, дагэтуль нядрукованых, матар‘ялаў з жыцьця людзей і прыроды. Багата высьвятляецца жыцьцё дзяцей у школах і атрадах.

УВЕСЬ ЛЕПШЫ МАТАР‘ЯЛ з дзіцячай літаратуры вы знойдзеце толькі ў часопісі „Беларускі Піонэр“, якая арганізавала вакол сябе ўсіх найвыдатнейшых старэйшых і маладзейшых пісьменьнікаў Беларусі.

КОЖНЫ ПІОНЭР і ВУЧАНЬ павінен чытаць, выпісваць і быць організатарам колектыўнай падпіскі на „Беларускі Піонэр“—часопісь усіх дзяцей.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 м-ц. . . . | 20 к. | На 6 м-цаў . | 1 р. 20 к. |
| На 3 м-цы . . . | 60 к. | На 1 год . . | 2 р. 40 к |

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ва ўсіх паштова-тэлеграфных установах БССР, упаўнаважанымі агентамі па збору падпіскі выд. „Чырвоная Зьмена“, у Менску— Савецкая, 63, Кантора газ. „Звезда“